АНАТОЛЬ ВАРШАЎСКІ

# НЯБЕСНЫ ЛЁН

Вершы і пераклады

АНАТОЛЬ  ВАРШАЎСКІ

# НЯБЕСНЫ ЛЁН

(Вершы розных гадоў; бабруйскія лімэрыкі; беларускія хайку; Гіём Апалінэр – наш чалавек у Парыжы)

*Анатоль Варшаўскі – беларускамоўны паэт і перакладчык, які ў 90-2000-я гады жыў і працаваў у Беларусі.*

*У кнізе змешчаны творы розных гадоў гэтага лірычнага паэта, які ўспадкаваў традыцыі беларускай класікі.*

***

З мінулага стагоддзя вершы,

З класічнага стагоддзя – пешшу,

Праз памяць, праз мяне наўпрост, –

Яны не скардзяцца на лёс.

Растуць сабе, – аб гэтым сказана…

У думках – збольшага выразныя,

Яны жывуць тут, як і ўсе…

І вершы гэтыя – мае…

***

Калі я размаўляю па-беларуску,
У мае жылы ўваходзіць сама Гісторыя,
Я раблюся шляхетным – у шляхетным адзенні, –
Як таму і трэба быць,
Як і наканавана лёсам...
Шэсцьсот гадоў альбо сямсот,
Усе соймы, гербы, сцягі і штандары,
Усе надзеі і летуценні,
Уся старадаўняя Літва,
Што сёння завецца Беларуссю;
Сінія Воды, Грунвальд, Ворша і Ула,
Гусоўскі, Скарына, Купала і Багдановіч, –
Усё гэта праходзіць перада мной і праз мяне,
І робіцца маёй беларускай душою…

Калі я размаўляю па-беларуску…

***

Мы музыку трагедыі нясём –

Вось ад калыскі да магілы...

Спяваем моўчкі (й моўчкі мы жывём),

І на харал нам хопіць сілы.

Але дзе ж той прадвечны дырыжор,

Што захінуўшы зноў мяне ад гора,

Пакажа партытуру соль мінор

І выслухае без дакору...

## ПАКОЙ ПАЭТА

Пакой – чатыре ў ім кута.

Жыццё – як з чыстага ліста.

І трэба ў тэрмін дакрануцца,

Каб у іншым свеце апынуцца...

Як піраміда пірамід,

Где сам сабе я цар и гід.

О, мой пакой, – пакой – Эдэм!

Святое месца тэм, ідэй...

***

Дзявочыя вусны,

Дзявочыя вусны –

Мана і спакуса,

Мана і спакуса.

Калі б толькі ведаў,

Калі б толькі ведаў,

То іх бы не зведаў.

То не было б бедаў.

Калі б гэта ведаў –

То быў бы другі…

Жывы і шчаслівы,

Без гора-тугі…

Ў любоў, як у вір, я –

Уніз галавой.

І прывід кахання

Зноў крочыць за мной.

У вір я без думкі,

Пакуты – сцяной.

З каханнем – рахункі,

Разлікі – з тугой.

І ўсё – назаўсёды!

І ўсё – назаўжды!

Дзявочыя вусны,

Прадвеснік бяды...

## ПРЫЗНАННЕ

Тое, што трымае мяне ў гэтым свеце, –

Гэта твая ўсмешка,

Некалькі райскіх слоў, сказаных прыхапкам,

Але якія сталі маім гімнам,

Твой захоплены погляд,

Якім ты зірнула на мяне ў тую ноч.

І яшчэ дзве-тры рэчы,

Дзве-тры рэчы,

Але пра гэта потым,

Аб гэтым – потым…

## АДЗІН ДЗЕНЬ

Дзень пачынаўся з агульна-філасофскіх клопатаў,
З разважанняў пра сэнс існавання і г. д.
Канчатковае рашэнне адкладалася,
Прынамсі, да вечара.
Зрэшты,  усё роўна…

Спіс спраў, чарада працэдур,
Гульня ў хованкі з часам,
Зацягванне безвыходнасці.
Не вельмі хацелася, каб...

Выйсці з дому, ступіць на вар'яцкі карабель,
Што праплывае па буднях, праплывае па буднях
З табой на карме, –
Гэта подзвіг, годны старажытных герояў.

У пэўным сэнсе мы ўсе Адысеі.

Каб патрапіць на месца, патрабуецца 20 хвілін.
За гэты час душа здзяйсняе кругасветнае падарожжа
Па акіянах рэфлексіі.

Добрай ранніцы, метафізіка!

Вось і газета, дзе палююць на словы…

Чарада рандомных візітаў,
Доўгіх размоваў аб тым аб гэтым…

«Дазвольце расказаць вам пра свае праблемы».

«Вы будзеце гарбату ці каву?»

«Маё жыццё – жах! Яно ператварылася ў нейкае пекла…»

«Вазьміце вось гэтае печыва, вельмі, скажу вам, смачна…»

«І што мне, парайце, рабіць у гэтых абставінах?»

«Можа, вам яшчэ гарбаты?»

А потым зноўку штодзённасць, штодзённасць,
што доўжыцца як бясконцасць.

На лятучцы кожны нібыта пірат
І між тым – таемны забойца часу.

«Гэтая тэма годная першай паласы.
Папрацуйце над ёй добра...»

«Аварыя з удзелам дзвюх машын»;
«Рака выйшла з берагоў»;

«Правальны год для эканомікі» –

Вось загалоўкі будучых артыкулаў, што выйдуць у газеце.

А як жа паэзія?

(Думаешь часам ты, бо паэт).

«Вы што хочаце гэтым сказаць?»

«Гэта мы абмяркуем на тыднёвай планёрцы».

«Падрыхтуйце вашыя пытанні».

А як жа паэзія?

(Думаешь часам ты, бо паэт,

Якому трэба здзейсніцца).

Паэзія, як заўсёды, ні пры чым.

Зрэшты, як і ўся астатняя літаратура,

З яе прозай і драматургіяй.

Шмат часоў ціхай, бы смерць, рэдактуры, –

Але галоўнага не адрэгадаваць…

Словы, словы, шмат слоў,

што адпраўленыя на эшафот.

«Так і жывем, mon cher ami. Так і жывем».

«Сустрэнемся ў бары а 18.00».

«Мне раптам стала вельмі самотна,
Вырашыла патэлефанаваць табе».

«На вуліцы Кветкавай адчыніўся буцік».

«Ты прыйдзеш сёння вечарам? Я спяку шарлотку».

«Да гэтага артыкула патрэбныя каментары».

«Ты заўсёды са мной халодны, замкнёны і сухі».
«Я стамілася ад усяго гэтага».

«Пачатак зрабіце больш экспрэсіўным,
Каб утрымаць чытача...»

«Мне не хапае тваёй увагі...»

«Не, так не падыходзіць, – перарабіце зачын і канцоўку».

«Я ўжо шкадую, што сустрэлася з табой…»

Ты адключаеш мабільную сувязь,
Таму што гэта ўжо занадта.
Ва ўсякім выпадку, лакальныя катастрофы
І парывы адносін
Не ўваходзілі ў твае бягучыя планы,
Якія ты старанна пазначаеш ў штодзённіку.

Дзень памірае. Агаворка па Фройду.

Чутны шоргат у пясочным гадзінніку.

Ліміт твайго часу вычарпаны.

Ты выключаеш святло, замыкаеш усе дзверы,

І гэта падобна на сімвал,

Пра што не хочацца думаць.

Між тым, дарога дадому – таксама метафара.

Уздрыгваючы ў канвульсіях, ліфт

Падымае цябе ўверх, у твой хатні Аід.

Ты маўчыш,

Утаропіўшыся ў сцяну…

## ПАРТРЭТ ДАМЫ

Тэлефанавала недарэчы.

Была занадта нервовай, каб быць шчаслівай.

Любіла наведваць буцікі і гіпермаркеты

І не любіла сур'ёзных гутарак –

Пра жыццё і смерць, і наогул ...

Казала пра жаніхоў, не памятаючы пра Адысея,

Шукала тое, чаго няма ў гэтым свеце,

Змаўкала надоўга,

І ў паўзах чуліся спевы душы.

Вось партрэт маёй дамы.

І я кахаў яе.

**ПАЖАДАННЕ САМОМУ САБЕ**

(Grave*)

*«З-за яе высахла маё сэрца*

*Як кветка на лузе,*

*Што кранута плугам да смерці».*

**Катул**

Твае рухі падобныя на крыкі,

І кожны з іх прычыняе боль.

Ты занадта сумленны, каб быць шчаслівым

(Nota bene, sic erat scriptum**), –

Тым больш сярод гэтых людзей,

Дзе больш усяго цэніцца ліцадзейства.

Але паступова табой авалодвае абыякавасць

Да ўсяго, что тычыцца чалавечага шчасця.

Зараз галоўнае для цябе – гэта твой самотны дар,

Што расце так павольна –

І ты паліваеш яго сваімі слязьмі.

Калісьці ў цябе была мара,

Але яна ператварылася ў пар.

Твая надзея заржавела і абязрушана.

Твая вера загнаная ушчэнт

У бясконцых лабірынтах рэфлексіі,

І ты ўжо чуеш набліжэнне Мінатаўра.

(Ці ёсць ў гэтым свеце Арыядна?)

Тая, якую ты ўзнёс на Алімп,

Размяняла золата твайго пачуцця

На крыклівых кірмашах гэтага свету,

Атруціўшы тваю любоў і тваю паэзію,

Бо любоў і паэзія – для цябе гэта адно і тое ж.

Цяпер табе толькі застаецца разагнаць парламент сваіх думак

І адправіць сваю памяць у адстаўку,

Інакш твой розум абвесціць вайну

Тваёй жа душы

І ў гэтай вайне не будзе пераможцаў.

Табе нельга адчайвацца.

Ты пасылаеш свой голас у будучыню

І перасоўваешся, арыентуючыся па рэху.

Твае рухі падобныя на крыкі,

І кожнае з іх прычыняе боль.

Але ўсё ж ты павінен перамяшчацца ў прасторы,

Інакш у твой пакой увойдзе чорны жах

І павольна задушыць цябе рукамі вар'яцтва.

** Grave – абазначэнне тэмпу і характару ў музыцы: павольна, значна, урачыста, цяжка.*

*** Nota bene, sic erat scriptum – заўважце, так было напісана.*

***

Я жыў без цябе, і выжыў, на жаль.

І смутак мяне запрашае на баль.

І кружыць у віру і танчыць туга…

Ўнутры і звонку – імга...

Пайшла і  не вернецца. Толькі імя…

Шукаю яе я усюды – няма…

І сад мой стаіць па калена у снезе,

Па кроплях рабіны я  –  быццам па следзе…

Паслухай, паслухай – ледзь чутна, – зважай! –

Бы жаўранак плача – звініць гэты май.

Вось лета тут зноўку, і восень за ім, –

Я ўсё быццам крочу па следзе тваім…

Няма і не будзе на свеце цябе, –

Ні ў тым і ні ў гэтым,  – не будзе цябе…

І вось,захлынуўшыся, горам, тугою,

Я моўчкі стаю над чорнай вадою…

## МАТЫЛЁК У КАСТРЫЧНІКУ

Вось пырхае матыль... Спытаеш: дзе тут дзіва?
Але ж кастрычнік ў сконе й хутка пойдзе снег.
У тагасветнасць дзён глядзішь – як уласціва, –
І кажаш смерці зноў: прабач, пакуль што «Не»...

***

Маментальны здымак навек,

Фотавыбліск як маланка або бліскавіца...

Ты жывеш, не падымаючы павек,

Дый ці варта было табе нарадзіцца, –

Тым больш у гэтай краіне

Знішчэння лепшых імгненняў,

Дзе лёс, калі не заб'е, то пакіне

Ў царстве ценяў...

***

Гібель гуманізму.

Філасофія жыцця абыйдзецца без нас.

Тут пры слове «Радзіма»

Ўспыхвае памінальны газ,

Расквітаючы блакітнай ружай,

Ружай, што стагоддзю да твару.

І душу́ выдзьмуе́ лютай сцюжай,

І  бяда ідзе з горам на пару...

***

– Быў чалавек – пайшоў да Бога.
  Што засталося тут? Нічога.
– Як гэта так? Пражыў ён многа…
  Няўжо і сапраўды – нічога?
– Так, сапраўды, на жаль, – нічога.
  Быў чалавек – пайшоў да Бога.

***

Спадар, Google

Вы ж усё ведаеце,

Падкажыце, будзьце добрыя, –

Дзе шчасце маё

І дзе радасць?

***

Кожная хвіліна – гэта боль ...

Як жа гэта так? –  дазволь.

Хіба гэтага чакалі,

Можа дрэнныя квіткі нам да́лі?..

Хочацца сказаць: «Адбой».

Моўчкі мы сядзім, як на вакзале.

Кожная хвіліна – гэта боль...

***

Не падымаецца рука,

Каб лоб перахрысціць.

Ў душы – сусветная туга,

Ў жыцці – сусветная туга, –

Што ж, так таму і быць.

Вядома, можна ж абурыцца,

І з лёсам шчэ разок пабіцца,

Сябе ізноў пераадолець...

А што ў асадку? Смерць прыходзіць…

***

Я навучыўся жорсткім быць,

Я навучыўся забіваць

Ў сябе пачуцці ўсе – бы жарсць, –

І ноччу зноў з Харонам* плыць,

На чоўне зноў з Харонам плыць, –

Каб ранніцай усё забыць...

А потым содні без пачуццяў

Жыве душа мая ледзь чутна, –

Ахвяраю зрабіўся кат,

І гэтага не бачыць нат.

Чым больш жыццё мяне калечыць,

Глядзі, тым больш спакойны я, –

Нібыта праступае вечнасць

Скрозь холад гэтага быцця…

**Харон – у грэцкай міфалогіі - перавозчык душ памерлых праз раку Сцікс у падземнае царства мёртвых.*

***

А што вось потым, што вось – потым?

Быць можа, што й апошні подых.

Быць можа, што – канец, пустэча,

Ні з кім, ні з чым (ні дзе!) сустрэча.

Пакута, апусцелы дом…

А што вось – потым?

Што вось – потым?..

**ЖАРТАЧКІ ПРА СЯБЕ І ПРА ІНШЫХ**

1.

Па ўсім відаць, складана я
Ўжо так уладкаваны,
Што, так бы мовіць, і жыцця
І слоў не трачу марна.

Калі ж я гутарку вяду,
Аб чымсьці разважаю,
То, суразмоўцу на бяду,
Сябе не заўважаю.

Здаецца мне: вось-вось, ужо
Галоўнае скажу я.
Гляжу – дамоў усе даўно
Пайшлі, а я не чую!

2.

Пра ўсё – пра тое і аб гэтым,
І зноў без аніякай мэты,
Сустрэўшыся, пагаварылі,
Дарэмна толькі час згубілі…

І вось здаецца, што ніколі
Мы ў гэтае не ступім кола…

Але ўсё ж думаеш: а раптам

Як ў дэжа вю, сюды мы трапім?

І вось тады, тады ізноў

Мільён мы нагаворым слоў!

3.

Трэ з'ехаць з глузду, каб адбыцца.

Ты гэтага не ведаў быццам?

Вось у каго не ўсе ўжо дома,

Хто звар'яцеў, – таму вядома!

Свой лёс на кон паставіць трэба,

Пачварай стаць на гэтай глебе.

Як Лужын* – што, у абароне,

Жыццё прайграў – без забабонаў…

**Лужын – герой рамана Ул. Набокава «Абарона Лужына», геніяльны шахматыст-вар'ят.*

## САМАЭПІГРАМА

Няма мяне ў літаратуры,
Няма дзе-небудзь у жыцці.
Што гэта? Смерць усёй культуры?
Не – цяжкасці у развіцці...

***

На пераломе дзвюх эпох
Да вечнасці я прытуліўся,
Хвілінку пастаяць так змог –
І ледзь не заваліўся.

А сёння забыцця настой
Я п'ю па кроплі, нібы лекі.
І гэты якасны напой
За ўсе напоі ў свеце лепей!

***

Я невыносны сам сабе, –

Па Фройду нейкі альфабет.

Але ж патрэбна растлумачыць –

Што гэта значыць?

Якое бачыцца рашэнне?

Хвілінку, спадары, імгненне,

І я скажу вам – шчыра, смела:

Незразумела...

***

Эфект матылька.

Лёгкі пырх па-над сэнсам,

Па-над тым, што было і што будзе,

Няхай і здаецца, што – ніколі, ніколі…

Жыццё заканчваецца нечакана-негадана.

Але ж – show must go on*.

Трэба паспець зрабіць гэта, трэба паспець ...

Бог захоўвае ўсё.

На адлегласці рукі,

На адлегласці памяці...

**Show must go on – шоу павінна працягвацца.*

***

Развучыўся пісаць я вершы.

І цяпер вось толькі кароткія...

Скажуць: ты не апошні, не першы,

Ды і рэчы гэтыя крохкія...

Так, і вельмі. З іншага свету,

З рэчаіснасці – бы не адсюль,

Напявае нехта паэту, –

І няма таго спеву пакуль!

І няма… І нічога не зробішь тут, –

Ты адзіны, хто гэтае мог –

Ты адзіны!.. І загнаны ў кут

Нематы – ты нібы занямог...

На зямлі мы заўсёды самотныя.

Паміж намі, – як водзіцца, пешшу, –

Ходзяць смерці пяшчотна-лагодныя,

Каб ласкава кагосьці ўсцешыць...

Развучыўся пісаць я вершы...

***

Апазіцыя, што ў Бабруйску

Ўсё чакала нейкага Руста*, –

Каб да іх прыляцеў

І на плошчы іх сеў.., –

Не пабачыла Руста* ў Бабруйску.

***

Бізнесмен адзін быў у Бабруйску,

З выканкамам дзяліў ён «капусту».

Днём і ноччу насіў –

Вось такі «супраціў»

Бізнесмена, што жыў у Бабруйску.

***

Старшыня выканкама ў Бабруйску

Быў жадобны зусім не па-людску.

Нават хабар хаваў, –

Дзе – і сам забываў…

Старшыня выканкама ў Бабруйску.

**Матыяс Руст – 18-гадовы нямецкі пілот-аматар, які ў траўні 1987 гады, праляцеўшы незаўважна праз тэрыторыю СССР, пасадзіў лёгкаматорны самалёт у цэнтры Масквы – недалёка ад Чырвонай плошчы і сцен Крамля.*

***

Ідыёлаг адзін у Бабруйску
Ў выканкаме служыў Заратустрай.
Ён пра росквіт прарочыў…
Вось туды ён і збочыў –
Ідыёлаг адзін у Бабруйску.

***

Камуніст жыў-тужыў у Бабруйску,
Выглядаў ён зусім па-буржуйску.
І машыны, і вілы…
«Дзе ж ты, Ленін мой мілы?!» –
Так казаў камуніст у Бабруйску…

***

Ідэолаг-настаўнік ў Бабруйску
Абяцаў паказаць усім Кузьку…
І пра маці казаў…
Але не паказаў
Ён ні маці, ні Кузьку ў Бабруйску.

***

Жыў-быў следчы адзін у Бабруйску,
Што разлічваў заўсёды на чуйку.
Нат без фактаў калі, –
Ён казаў: «Не юлі!», –
І шыў справу далей ён ў Бабруйску…

***

А суддзя, што судзіў у Бабруйску,
Так любіў юрыдычную жуйку,
Што КаАП ён зжаваў
І КК ён зжаваў –
Той суддзя быў гурманам ў Бабруйску.

***

А мужчына адзін у Бабруйску,
Што прыехаў сюды ажно з Глуску,
Так з гарэлкай кахаўся,
Што без шлюбу застаўся, –
Той мужчына, што жыў у Бабруйску.

***

А жанчына адна ў Бабруйску

Мела шмат палітычнага густу.

Вось каб іх прэзідэнт

Падабаўся ўшчэнт –

Так хацела жанчына ў Бабруйску.

***

Гандляру-мільянеру ў Бабруйску

Праз іголку ісці было вузка.

«Я ж зусім не вярблюд!..» –

І падаў ён у суд, –

Той Карэйка*, што жыў у Бабруйску.

***

Адмысловы гісторык ў Бабруйску

Ўсім казаў, каго бачыў: «Я – жмудскі!..»

Але выйшаў Указ

І зрабіў ён намаз,

І кітайцам ён стаў у Бабруйску.

*(Удакладненне: а чаму кітайцам, гэтага ніхто не ведае; відаць, нешта пераблытаў).*

**А. Карэйка – падпольны мільянер, адзін з цэнтральных персанажаў рамана Ільфа і Пятрова «Залатое цяля».*

***

Адмысловы кітаец у Бабруйску

Ўсім даводзіў: «Я – рюскі! Я – рюскі!».

І, як нейкі празор*, –

Бабруйчанам узор, –

І цяпер ён так кажа ў Бабруйску.

***

Прыгажун жыў адзін у Бабруйску.

Быў разумны, як пернік той тульскі…

Пра цудоўны рэжым

Ён казаў усім і тым

Быў вядомы ня толькі ў Бабруйску.

** Тут – празорца, празорлівец*

***

Верасень прыйшоў

На варту дзён маіх.

Бліжэй да скону.

***

У Маконда* дождж,

У Бабруйску ідзе снег.

Літаратура.

***

Восеньская сінь –

Так выглядае вечнасць.

Хто я ў гэтым свеце?

***

Увайшоў я ў сад,

Сад адгукнуўся цішшу.

У нас адна душа...

***

Кастрычнік. Цяплынь.

Птушкі не адляцелі…

І я застаюся.

***

На вуліцу я выйшаў –

Чысцюткі белы колер на зямлі…

Крочу асцярожна.

**Маконда  – выдуманы горад, дзе праходзяць асноўныя падзеі рамана Габрыэля Гарсія Маркеса «Сто гадоў адзіноты».*

***

Белыя крупы з нябёс –

Быццам сыплецца боская манна…

І сёння я сыты.

***

Ручай замёрз,

Застыў у сваім імкненні…

Так і душа мая.

***

Снег пайшоў нечакана,

І  прыціхлі адразу ўсе гукі…

Маўчу і я.

***

Ледзяное люстэрка,

Сіні колер неба ў ім.

Змёрзлая вечнасць.

***

Ластаўкі носяцца з піскам,

Сонца не хоча заходзіць –

Жыццё ў зеніце.

***

Бярозы ў завушніцах,

У зялёных празрыстых сукенках –

Танчаць у паветры.

***

Неба дарыць мне срэбра, –

Па зямлі яно скача, па дахах.

Травеньскі дожд.

***

Стрыгуць неба стрыжы,

Лён на зямлю ападае.

Гляджу на свет праз травень.

***

Няхай адлегласць –

Чую хвалі водара аднекуль.

Парфюм прыроды.

***

Снег пакрывае зямлю,

Дарма, што травень у моцы, –

Пялёсткі вішань.

***

Мяцель у червені,

І не прайсці да дому, –

Пух тапаліны.

***

Мёд у паветры –

Гаючы раствор для душы.

Цвяценне ліп.

***

Ніколі гэты змрок зары не перасіліць!

Хай вечар нечым цешыць нас – мы раніцай жывем.

Нязменнасці няма і час усё пахіліць.

Але ўва мне крыніцы б’юць і вобразаў і тэм

Я пагружаю рукі ў хвалі шчасця.

## ПОЗНАЦВЕТ

Луг увосень – хто б ведаў – падманна прыгожы,
Бо атручвае статкі ягоная пожня.
Толькі, вось паглядзі, заквітнеў познацвет –
Сіні колер яго колер воч, колер бед.
У вачах тваіх фарбы квітнеюць так шчыра,
І атручаны я тваімі вачыма.

З крыкам, шумам са школы бягуць шкаляры.
Але сумна ім тут, у гэтым двары.
І збягаюць на луг, дзе ірвуць познацветы…
Той жа колер у іх, як з мінулага лета.

І расквечаны ім жа вочы твае.

Ціха песню пастух спявае ў паўсне…
І ў нябыт назаўседы брыдзе статак новы,
Праз мурог, праз увесь луг атрутна-ліловы.

## ДАМА

Тук-тук. Замкнёныя дзверы.

У садзе звялі лілеі. Маўчыш.

Хто сканаў там. У нешта ён верыў…

Ты ў ягоныя грукала дзверы.

Вельмі ціха, ціха бязмерна.

Нат чуваць як бегае мыш.

**1909**

У дамы была сукенка
Фіялетавага колеру
Асманскай імперыі.
А туніка яе была вышыта золатам
І складалася з двух частак тканіны,
Змацаваных на плячы.

Яе вочы танчылі, як анёлы ў нябёсах.
Яна смяялася, смяялася.
І твар яе паўтараў колеры французскага сцяга, –
Блакітныя вочы белыя зубы і вельмі чырвоныя вусны.
Твар яе паўтараў колеры французскага сцяга

Паўкругам ішло яе дэкальтэ.
І валасы ў стылі а-ля Рэкамье.
І цудоўныя голыя рукі.

Няўжо мы не пачуем ніколі, як поўнач праб'е на гадзінніке?

У дамы была сукенка  колеру Асманскай імперыі
І  туніка, што вышыта золатам,
І  дэкальтэ паўкругам.
Валасы яе былі схоплены

Абручом залатым.

Пераступала ў маленькіх туфліках з спражкамі.

Яна была такая прыгожая,

Што ты б не адважыўся яе палюбіць.

Любіў я жорсткіх жанчын у велізарных кварталах,

Дзе кожны дзень нараджалася некалькі новых істот небывалых.

Жалеза было іх крывёю, агонь іх мозгам.

Я любіў гэта племя спрытных разумных машын.

Усяго толькі  накіпам пенай былі  іх раскоша і прыгажосць.

А гэтая дама была такая прыгожая,

Што страх ува мне выклікала яна.

## НА РАГУ

Жабракі стаяць на рагу, чакаючы – ці нойме бос іх на працу.
Рукі ў кішэнях трымаюць дрыжаць, збіваюць падэшвы, як у танцы.
Яны не знаёмыя і не размаўляюць ніколі.
Часам  хтосьці ўспомніць Бога і скажа: «Даволі».

Экіпажы рамізнікаў абдаюць іх вадой каля тратуара,
Мінакі ў паліто іх штурхаюць у бок, і ў душах даўно толькі шнары.
Дождж нярэдка да костак іх пранімае, і вільгаць у вачах.
Уздымаюць каўнер пінжака, з кашлем кажуць: «Жыццё – гэта жах».
Просяць услых: «Сьвяты Божа, здзейсні нашыя мары».

Гэта будзе цягнуцца да дня, калі ў бальніцы –
Апошні кашаль, рэшта жыцця, а ў думках «Усё, гэта вечка».
І заплача стары, як хлапчук, будзе трызніць, маліцца:
«Мо цяпер міласэрны Божа нойме на працу навечна?»

## ПОВЯЗІ

Канаты зроблены з крыкаў

Гукі званоў па ўсёй Еўропе
Павешаныя стагоддзя

Рэйкі звязваюць нацыі
Нас толькі два ці тры чалавекі
Свабодных ад усіх повязяў
Працягнем жа руку адзін аднаму

Моцны дождж які прачэсвае сваім грэбнем дым
Ніткі
Вяроўкі сплеценыя з нітак
Падводныя кабелі
Вавілонскія вежы сталі мастамі
Жрацы павукамі
Усе закаханыя звязаны ніткай адзінай

Іншыя ж больш тонкія повязі
Прамяні празрыстага святла
Повязы саюзы

Я пішу толькі для вас
Мае запаведныя пачуцці
Варожыя ўспамінам

Варожыя жаданням

Варожыя шкадаванням

Варожыя слязам

Варожыя ўсяму што я яшчэ люблю

## У ПАНЯДЗЕЛАК НА ВУЛІЦЫ КРЫСЦІНЫ

Консьержка і яе маці нам не перашкодзяць

Калі вы сапраўдны мужчына то будзеце суправаджаць мяне сёння вечарам

Хопіць і аднаго чалавека каб каля брамы стаяць

У той час як іншы залезе наверх

Тры ліхтара з запаленым газам

У гаспадыні сухоты

Мы згуляем у нарды калі вы скончыце справы

Дырыжор які пакутуе ад болю ў горле

Прыедзеш у Туніс навучу паліць гашыш

Гучыць у рыфму

Груды сподкаў кветкі каляндар

Пім пам пім.

Я павінна гаспадыні каля 300 франкаў

Зарэзаўся але не аддаў бы

Адпраўляюся ў 20.27

Шэсць люстэркаў пастаянна глядзяць адно ў адно

Мне здаецца, што так мы можам заблытацца яшчэ больш

Мой дарагі

Вы проста нікчэмнасць

Нос гэтай дамы падобны на саліцёра

Луіза забылася на сваё футра

У мяне няма футры але я і не мерзну

Датчанін глядзіць у расклад  цягнікоў і паліць сваю цыгарэту

Чорная котка бяжыць праз піўную

Гэтыя бліны былі цудоўныя

Журчыць вада

Сукенка чорная быццам яе пазногці

Гэта цалкам немагчыма

Вось месье

Кальцо з малахітам

Пол абсыпаны пілавіннем

Тады гэта праўда

Рудавалосая афіцыянтка збегла з прадаўцом кніг

Журналіст якога зрэшты я ведаю не вельмі добра

Паслухай Жак тое што я збіраюся табе сказаць гэта вельмі сур'ёзна

Суднаходная кампанія змешанага тыпу

Ён кажа мне мсьё хочаце ўбачыць мае афорты а таксама карціны

У мяне толькі адна пакаёўка

Пасля сняданку ў кафэ Люксембург

І тут ён знаёміць мяне з нейкім смешным таўстуном

Які мне гаворыць

Паслухайце як жа цудоўна

У Сьмірне Неапалі Тунісе

Але дзеля бога дзе ж гэта

У апошні раз што я быў у Кітаі

То-бок гадоў восем ці дзевяць таму

Гонар часта залежыць ад часу пазначанага на гадзінніку

Туз кароль дама валет і дзясятка

Квінт-мажор

## МАЛЕНЬКІ АЎТАМАБІЛЬ

31 жніўня 1914 года

Я пакінуў Давіль незадоўга да поўначы

У невялікім аўтамабілі Рувэра

Разам з кіроўцам нас было трое

Мы сказалі да пабачэння цэлай эпохе

Лютыя волаты ўздымаліся над Еўропай

Арлы у чаканні сонца пакідалі свае гнёзда

Пражэрлівыя рыбы падымаліся з бездані

Народы сцякаліся для апошніх ведаў пра сябе

Мёртвыя дрыжалі ад страху ў цёмных сваіх дамавінах

Сабакі брахалі ў той бог дзе межы былі

Я ад'язджаў і ўва мне ўсе гэтыя арміі ваявалі

Я адчуваў як яны падымаюцца і паўзуць па краінах

Былі ўва мне лясы і вескі шчаслівыя Бельгіі

Франкаршам Лё Руж Пухон

Рэгіён праз які заўседы ідзе ўварванне

Чыгуначныя артэрыі дзе тыя хто ішоў паміраць

Яшчэ раз віталіся з гэтым жыццём што насычана яркімі фарбамі

Глыбокія акіяны дзе ў каркасах караблёў патанулых

Варушацца монстры

Неверагодныя вышыні дзе чалавек

Парыць вышэй чым арол

Дзе чалавек змагаецца супраць чалавека

І раптам падае ўніз нібыта зорка ўначы

Я адчуваў у сабе як новыя істоты поўныя спрыту

Праектавалі і затым будавалі новы сусвет

Неверагодна багаты гандляр вялікага росту

Размяшчаў свой тавар на незвычайнай вітрыне

І гіганцкія пастухі вялі

Вялікія нямыя статкі якія скублі словы

І на іх брахалі ўсе сабакі пры дарозе

*Я ніколі не забуду гэтага начнога падарожжа*

*падчас якога ніхто з нас не сказаў ні слова*

*О гэты ад'езд у цемру дзе памíралі нашыя тры фары*

*О пяшчота даваеннай ночы*

*О вёскі дзе куюць нянавісць*

*Тэрмінова выкліканыя кавалі*

*Якіх пазвалі паміж поўначчу і першай гадзінай*

*І мы несліся да сіняга Лізьё*

*да залатога Версалю*

*І тройчы мы спыняліся каб замяніць шыну*

*якая тройчы ўзрывалася*

І калі правёўшы другую палову дня

ў Фонтенбло

Мы прыбылі ў Парыж

У той час як там ужо аб'яўлялі пра мабілізацыю

Мы зразумелі абодва мой сябар і я

Што гэты маленькі аўтамабіль прывёз нас у новую эпоху

І што будучы ўжо сталымі людзьмі

Насамрэч мы толькі што нарадзіліся

**ЗАРЭЗАНАЯ ГАЛУБКА І ФАНТАН**

Забітыя вобразы

й кветачкі вуснаў

Усё сышло да пары

Мія Марэй

Іета Лары

Анні і Мары́

Шапчу апантана

Дзе вы юныя панны

Але

Каля фантана што плача і моліць,

Галубка трапеча і боль свой не тоіць

Усе ўспаміны мае цяпер аб мінулым

Сябры на вайне З імі гутараць кулі

Мае ўспаміны ўзлятаюць у нябёсы

Але ўсё здаецца сябры штосьці просяць

І позіркі іх у вадзе паміраюць

У спячай вадзе і смярцей гэтых досыць

Дзе Брак дзе Жакоб хто выйдзе на ганак

Дэрэн  дзе з вачыма быццам світанак

Рэйналь і Бійі таксама Даліз

Туга мяне цягне кудысьці ўніз

Імёны гучаць як у царкве вакаліз

Дзе Крэмніц што сам у войска пайшоў

Няўжо ўсе мёртвыя няўжо так няўжо

Іх лёс невядомы і хто растлумачыць

І бруі фантана са мной разам плачуць

Усе хто адсюль сышлі ваяваць

На фронце цяпер на Поўначы

Апускаецца вечар і воінаў раць

Ідзе

У моры крывавым тонучы

А ў садах пачынае крывёй заквітаць

Дрэва вайны алеандр

## ЗЯМНЫ АКІЯН

Дж. Дэ Кірыко

Я дом свой узвёў пасярод Акіяна зямнога
Яго вокны рэкі што цякуць з вачэй маіх
Кішаць паўсюль васьміногі каля яго сцен
Чуецца патройнае іх сэрцабіцце і грук дзюбаў у шыбы
Вільготны дом
Мой дом пылае
І час як гром
Які спявае
Самалеты адкладаюць яйкі
Увага зараз яны кінуць якар
Увага зараз будзе выбух чарнілаў
Было б вельмі добра калі б вы сышлі з нябёсаў
Глядзіце як бружмель на неба да вас імкнецца
Між тым як тут на зямлі дражаць васьміногі
Мы зрабілі ўсё каб стаць самім сабе магільшчыкамі
О бледныя васьміногі з крэйдавых хваль
О васьміногі з мярцвяна-белымі дзюбамі
Зямны акіян вакол майго дома
І б'е ён у сцены бяз стомы бяз стомы

## ЁСЦЬ

Ёсць карабель які звёз ад мяне маю каханую
Ёсць у небе шэсць сасісак яны выглядаюць як лічынкі
з якіх ў начы народзяцца зоркі
Ёсць варожая падводная лодка якая хацела б знішчыць маю любоў
Ёсць вакол мяне тысячы маленькіх елак што пасечаны асколкамі
Ёсць салдат-пяхотнік, які проста моўча сядзіць аслеплены атрутным
газам
Ёсць усе мы ў знішчаных карпусах Ніцшэ, Гётэ і Кёльна
Ёсць маё тамленне ў чаканні ліста які павінен быў даўно ужо атрымаць
Ёсць ў маім паперніку некалькі фотаздымкаў маёй каханай
Ёсць палонныя якія праходзяць міма мяне з змрочнымі тварамі
Ёсць батарэі чые разлікі клапочуць каля гармат
Ёсць паштальён які бяжыць трушком па дарозе абсаджанай самотнымі
дрэвамі
Ёсць як кажуць шпіён што хаваецца тут нябачны як гарызонт з якім ён
ганебна зліваецца
Ёсць высокі падобны на лілею бюст маёй любімай
Ёсць капітан які турботна чакае сувязі з Атлантыкай па
радыётэлеграфе
Ёсць салдаты што ў начы пілуюць дошкі для заўтрашніх трунаў
Ёсць жанчыны ў Мексіцы якія гучна просяць маіс перад
скрываўленым аблічам Хрыста
Ёсць Гальфстрым такі цёплы і жыватворны
Ёсць у пяці кіламетрах адсюль могілкі поўныя крыжоў
Ёсць паўсюль крыжы тут і там тут і там
Ёсць плады падобныя на інжыр на кактусах у Алжыры

Ёсць доўгія гнуткія рукі маёй каханай

Ёсць чарніліца якую я зрабіў з 15-сантыметровай гільзы

якую мне не дазваляюць адправіць адгэтуль

Ёсць маё сядло што мокне пад дажджом

Ёсць рэкі  якія назад не цякуць

Ёсць каханне што пяшчотна кліча мяне

Быў палонны бош які нёс на спіне свой кулямёт

Ёсць мужчыны ў свеце што ніколі  не былі на вайне

Ёсць  індусы якія глядзяць са здзіўленнем на заходнія вёскі

І  думаюць з сумам пра тых з кім яны ўжо не пабачацца зноў

Бо падчас гэтай вайны ўсе сышлі так далёка ў мастацтве нябачнасці

## АДЫХОД

І твары збялелі іх

І загінулі іх рыданні

Як снег што падае ў слых

Ці як пацалункі ў растанні

Злятала лі́сце з дрываў тых

Лісцё так на зямлю злятала

## ПАШТОЎКА

Я пішу табе ў намёце

Летні дзень канае ў гэты час

І красуе асляпляльнай моцы

У блакіце неба не для нас

Захад кананада тых эмоцый

Што ў жыцці квітнеюць толькі раз

**СМУТАК ЗОРКІ**

Так з галавы маёй у свет пайшла Мінерва
Крывавой зоркаю я ўвенчаны навек
Але з вышынь нябёс узброіўшыся верай
Прыкрыты я шчытом хоць проста чалавек

І вось чаму мой боль ёсць за сабе не горшым
Фатальная атуліна як зорка ўва мне
І ўсё ж трызненне тут яно займае плошчу
Памерам як душа жахліва як у сне

І я нашу з сабой пякельныя пакуты
Вось так святляк гарыць гарыць ў самім сабе
Так сэрца Францыі гучыць ва мне праз смутак
І так пылок лілеі быццам вена б'е

## З ЦЫКЛУ «Ў ЧАКАННІ»

***

Мадам паглядзіце
Вы  нешта згубілі
– Гэта сэрдца маё
Сябе вы яго забярыце
Я вазьму я аддам і не ў скрусе
Гэта дробязь паверце паверце
Вось глядзіце як я смяюся
Над любоўю што скошана смерцю

***

І пакуль па небу ходзіць месяц
Маё сэрца песняй сябе цешыць
Паглядзіце пані – пані й паненкі
Я цудоўна мёртвы і закрыў я зенкі
А мая метрэса любіць па начах
Мёртваю з’яўляцца ў акопных снах

*******

Вось паслухайце нейкія спевы
Медалí там пяюць і жаўнеры
І паўсюль пахавальны там звон
Водар ландашаў бэзу як сон

Мерцвякі з дамавін падымаюцца

Бо салдатам ў зямлі нават марыцца

Пра каханне якое пайшло

Ў тагаіснасць дзе Бог і святло

## ПРЫГАЖУНЯ З РУДЫМІ ВАЛАСАМІ

Вось я тут перад вамі як ёсць поўны пэўнага сэнсу
Мне вядома ўсё аб жыцці
і аб смерці я ведаю тое што здольныя ведаць жывыя
Я ёсць той хто спазнаў і горыч і радасць любові
Той што часам умеў навязаць меркаванні свае й ідэі
Ведае мовы чужыя
Нямала паездзіў па свеце
Хто пабачыў вайну ў артылерыі а таксама ў пяхоце
Быў паранены ў галаву й трэпанаваны пад хлараформам
Страціў лепшых сяброў у жудаснай бітвах
Пра старое і новае я ведаю столькі, колькі можа ведаць адзін чалавек
Але зараз я клапачуся не аб вайне
Што ідзе паміж намі сябры і за нас.
Мае думкі аб сварцы працяглай
Між традыцыяй і адкрыццём
Між парадкам і невядомым

Вы чые вусны створаны па вобразу Божаму
Вы чые словы увасабленне парадку
Калі ласка будзьце паблажлівыя
Параўноўваючы нас з узорам парадку
Нас хто ўсюды шукае невядомае й Навізну

Мы ня ворагі вашы

Мы хочам даць вам вялізныя дзіўныя землі

Дзе квітнеючую таямніцу знойдзе той хто шукае яе

Дзе ёсць новыя светлыя колеры што дагэтуль ня бачыў ніхто

Дзіўных з'яў і фантомаў вялікае мноства

Што дагэтуль чакаюць увасаблення

Мы імкнемся спасцігнуць гэты край дабрыні дзе пануе маўчанне

Гэты час які можна прагнаць і прымусіць зноўку вярнуцца

Крыху літасці да нас змагаемся мы на межах

Будучыні і бяскрайняй прасторы

Літасці да нашых памылак літасці да нашых грахоў

Зноўку лета вакол і  жорсткасць ў зеніце

І памерла мая маладосць падобна вясне

Вось палае мой розум глядзіце глядзіце

Я наяве чакаю і ў сне

Каб ісці мне за ёй куды б не ішла

За каханнем маім нябесным свяцілам

Што прыходзіць і вабіць як ёй уласціва

Але радасць мая вось яшчэ адно дзіва

Вобраз мілы рудой прыгажуні яна прыняла

Валасы выглядаюць як золата

Як маланкі прыгожай полымя

Ці як водбліск яе на ружах

Што з вясны квітнеюць да сцюжы

Што ж смейцеся людзі з мяне

Чужыя і блізкія мне смейцеся

Бо на свеце ёсць шмат такіх рэчаў пра якія сказаць не змагу

І шмат ёсць такога пра што вы самі сказаць не дасце

Крыху літасці да мяне

# ЗАЎВАГІ ДА ПЕРАКЛАДАЎ

Славуты французскі паэт Гіём Апалінэр (1880–1918) паходзіў з беларускага шляхетнага роду Кастравіцкіх. Яго маці была дачкой штабс-капітана расійскага войска Міхала-Апалінарыя Кастравіцкага, які ўдзельнічаў у паўстанні 1863 года. Родавы маёнтак Кастравіцкіх Дарожкавічы (Дзісненшчына) быў канфіскаваны пасля падаўлення паўстання расійскім урадам. Дзед Апалінэра з сям’ёй эміграваў у Італію, дзе і нарадзіўся будучы паэт і дзе прайшло яго дзяцінства.

З 19-гадовага ўзроста Апалінэр жыў ў Парыжы, працаваў рэпетытарам, супрацоўнічаў з прэсай, пісаў апавяданні, камерцыйныя раманы; выпусціў дзве кнігі паэзіі. З пачаткам Першай сусветнай вайны адправіўся добраахвотнікам на фронт, служыў артылерыстам. У сакавіку 1916 г. быў цяжка паранены асклепкам снарада. Памёр ад ускладнення падчас эпідэміі «іспанкі» (разнавіднасці грыпу) 9-га лістапада 1918 г.

## Ніколі гэты змрок зары не перасіліць...

Як мяркуецца, напісана ў 1899 г. Упершыню апублікавана ў пасмяротнай кнізе «Меланхалічны вартаўнік» (1952), у цыкле «Стаўло».

## Познацвет

Верш напісаны ў 1901 г. Апублікаваны ў 1907 годзе ў газеце «La Фаланга». Пазней быў уключаны ў кнігу «Алкаголі» (1913).

Познацвет (Les colchiques) – лугавая расліна, якая з'яўляецца атрутнай для людзей і жывёл.

## Дама

Апублікавана ў «Фе Фестэн д’Эзоп», снежань 1903, № 2.

Увашло ў кнігу «Алкаголі» (1913 г.).

## 1909

Упершыню было апублікавана ў «Алкаголях».

Жанна-Франсуаза Рэкамье (1777-1849) – прадстаўніца вышэйшага свету Францыі. Была заканадаўцай арыстакратычнага стылю, манер, моды. Яе вобраз захаваны на карцінах мастакоў Давіда і Жэрара.

## На рагу

З «Рэйнскіх вершаў», якія не ўвайшлі ў кнігу «Алкаголі». Верш напісан ў 1903 г.

Быў надрукаваны ў «Зборы вершаў» (1956 г.).

На беларускую мову раней не перакладаўся.

## Повязі

*У канцы 1912 г. Апалінэр адмовіўся ад пунктуацыі ў вершах, тлумачачы гэта тым, што «знакі прыпынку бескарысныя, бо сапраўдная пунктуацыя – гэта рытм і паўзы верша».*

Упершыню апублікавана ў «Монжуа», 14 Травень 1913 годам, № 5.

Верш быў напісаны яшчэ ў мірны час, таму гучыць па-прароцку. Апалінэр надрукаваў яго ў якасці своеасаблівай прадмовы да ўсёй кнігі «Каліграмы» (1918) . Уключаны паэтам у першы раздзел «Каліграм» – «Хвалі».

На беларускую мову верш раней не перакладаўся.

## У панядзелак на вуліцы Крысціны

Апублікавана ў кнізе «Каліграмы» (1918), у раздзеле «Хвалі».

Верш складзены з выпадковых рэплік-дыялогаў. Апісвае парыжскую раніцу ў кафэ на вуліцы Крысціны.

У канцы 20-га стагоддзя гэты прынцып адлюстравання і перадачы рэчаіснасціستануць выкарыстоўваць у сваёй творчасці паэты-авангардысты й постмадэрністы.

Квінт-мажор – камбінацыя з пяці карт у гульні, якая пачынаецца з туза.

## Маленькі аўтамабіль

Надрукаваны ў «Каліграмах» (1918), у раздзеле «Сцягі».

Франкаршам – бельгійская вёска, якая належыць муніцыпалітэту Stavelot, дзе Апалінэр жыў ва ўзросце 19 гадоў, працуючы хатнім настаўнікам.

8 жніўня 1914 гады, у пачатку Першай сусветнай вайны, нямецкімі войскамі ў гэтай вёсцы былі расстраляныя 14 мірных жыхароў і разбураныя 25 дамоў.

Лё Руж – бельгийская река.

Пухон – крыніца з мінеральнай вадой у бельгійскім горадзе Спа.

Лізьё – камуна ў Нармандыі, на паўночным захадзе Францыі; знаходзіцца ў рэгіёне Ніжняя Нармандыя.

Фонтенбло – камуна, што размешчана ў дэпартаменце Сена і Марна ў рэгіёне Іль-дэ-Франс, на поўдзень-ўсход ад Парыжа.

Курсівам вылучаны той фрагмент верша, які ў Апалінэра прадстаўлены ў выглядзе каліграмы – графічнай выявы аўтамабіля.

## Зарэзаная галубка і фантан

Напісана ў Німе ў канцы снежня 1914 г.

Упершыню ў «Каліграмах» (1918), у раздзеле «Сцягі».

Верш цалкам уяўляе сабой каліграму – выяву галубкі і фантана.

## Зямны акіян

Верш датаваны снежнем 1915 г. Апублікаваны ў «Нор-Сюд», люты 1918, № 12.

Джорджа дэ Кірыко (1888-1978) – італьянскі мастак, заснавальнік «Метафізічнай школы», адзін з папярэднікаў сюррэалізму.

*«Увага зараз будзе выбух чарнілаў»* – васьміног валодае здольнасцю выкідваць пры небяспецы воблака чарнілаў, так званую «атрамантавую бомбу».

Увайшоў у «Каліграмы» (1918), раздзел «Артылерыйскія зарніцы».

## Ёсць

Надрукавана ў кнізе «Каліграмы» (1918), у раздзеле «Снарады колеру месяца».

## Адыход

Апублікавана ў кніге «Каліграмы» (1918), у раздзеле «Зорная галава».

## Паштоўка

«Каліграмы» (1918),  раздзел «Зорная галава».

## Смутак зоркі

Верш напісаны Апалінэрам ў шпіталі пасля ранення (што здарылася 17 сакавіка 1916 г.).

Быў уключаны ў кнігу «Каліграммы. Вершы свету і вайны» (1913-1916), раздзел «Зорная галава».

*«...з галавы маёй у свет пайшла Мінерва»* – грэцкая багіня мудрасці Афіна (у рымскай міфалогіі – Мінерва) нарадзілася, па легендзе, з галавы Зеўса.

## У ЧАКАННІ

## (З цыклу вершаў)

## «Мадам паглядзіце..»,  «І пакуль па небу ходзіць месяц..», «Вось паслухайце – нейкія спевы...»

Вершы былі пасланыя Лу (Луізе дэ Коліні-Шатыён, у якую тады быў закаханы Апалінэр) 15 траўня 1915 года.

Апублікаваныя пасля смерці Апалінэра, у зборніку «Вершы для Лу» (1947).

На беларускую мову раней не перакладаліся.

## Прыгажуня з рудымі валасамі

Напісана ў 1918 г. Надрукавана ў «Л'Эвантай» 15 травня 1918, № 5.

Верш звернуты да будучай жонцы паэта Жаклін Кольб.

Гэтым вершам-завяшчаннем сканчаецца зборнік Апалінэра «Калліграммы» (1918).

**ЗМЕСТ**

**Розныя вершы розных гадоў**